

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 13 (552) 27 САКАВІКА 2002 г.**


# *З Вялікаднем, беларусы!*

## 25 сакавіка – галоўнае беларускае свята

**Паважаныя суайчыннікі і грамадзяне Беларусі!**

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны віншуе Вас з днём Волі, веснавым святам 25 сакавіка. Дзякуючы мужным абаронцам беларушчыны, выбітным дзеячам беларускага Адраджэння пачатку XX ст. беларусы зноў сталі нацыяй, якая пераўтваралася з аб'екта еўрапейскай палітыкі ў суб'ект сусветнай геапалітычнай прасторы і ў 1991 годзе дасягнула поўнай незалежнасці. Заснавальнікі БНР упершыню ў мінулым стагоддзі абвясцілі беларускую мову дзяржаўнай і вярнулі яе ў сусветную моўную прастору. І пакуль на нашай зямлі ёсць хоць адзін актыўны носьбіт беларускай мовы, ідэалы 25 сакавіка будуць жыць і перамагаць.

Жыве беларуская мова! Жыве Беларусь!

*Сакратарыят ТБМ.*
*21 сакавіка 2002 г.*



### "НАШАМУ СЛОВУ" І ЯГО ЧЫТАЧАМ НА 84-Я ЎГОДКІ АБВЕШЧАННЯ АКТАМ 25 САКАВІКА 1918 ГОДА Ў МЕНСКУ ДЗЯРЖАЎНАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

**На рукі Яго Міласці сп. Алега Трусава**
**Старшыні Таварыства Беларускай Мовы**

### СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ!

Ад імя Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады – беларускай грамадскасці ў Канадзе – вітаю Вас з 84-мі ўгодкамі АКТУ 25 САКАВІКА, 1918 года, якім у Менску была абвешчана дзяржаўная незалежнасць БЕЛАРУСІ ў яе этнаграфічных межах. І хоць незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі была знішчана бальшавіцкай расейскай імперыяй, значэнне АКТУ 25 САКАВІКА нельга пераацаніць:

1. АКТ 25 САКАВІКА, 1918 г. запачаткаваў у беларускім адраджэнцкім руху новы незалежніцкі перыяд, ад часу яго беларускі народ змагаецца за дзяржаўную незалежнасць Беларусі, бо разумее, што без яе нас, як беларускую нацыю – акупант знішчыць. Гэтаму вучыць нас і гісторыя, і цяперашчына.

2. Каб не было АКТУ 25 САКАВІКА, не было б, хай сабе і фікцыйнай, БССР, а была б толькі "Паўночна-заходняя" вобласць РСФСР.

3. Не было бы прадстаўніцтва БССР ў Задзіночаных Нацыях.

4. Не было бы і Рэспублікі Беларусь, бо з "Паўночна-заходняй" вобласці Расеі нельга было бы абвесціць суверэннасць Рэспублікі Беларусь.

Таму мы так высока цэнім АКТ 25 САКАВІКА, і з году ў год беларусы па ўсім свеце ўрачыста святкуюць угодкі яго.

АКТ 25 САКАВІКА вучыць нас, заклікае, дадае нам сілы ў змаганні, дае нам веру, што нашыя - абсалютна кожнага з нас - штодзённыя высілкі і праца на карысць беларускай вызвольнай справы, раней, ці пазней дадуць плён і мы будзем гаспадарамі на сваёй собскай зямлі, здабудзем дзяржаўную незалежнасць Беларусі. "Не згіне край забраны, покуль будуць людзі".

З вітаннямі шлём Вам нашыя найлепшыя пажаданні – ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*Др. Раіса Жук-Грышкевіч.*



## Дзень Волі ў Беларусі

*Вар'яцкім і нечалавечым назвалі прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту разгон у Менску масавай акцыі, прымеркаванай да чарговай гадавіны з дня абвяшчэння БНР. Паводле аператыўнага паведамлення прэсавай службы БНФ, у часе акцыі міліцыянты затрымалі прыкладна 80-90 чалавек.*

*Паводле Радыё "Рацыя" вядома, што ў Цэнтральны РУУС завезена 54 чалавекі, сярод іх - 5 журналістаў. 4 карэспандэнты былі амаль адразу ж адпушчаныя. З вядомых палітыкаў у Цэнтральны РУУС трапілі Вячаслаў Сіўчык, Павал Севярынец і Валер Шчукін. У Савецкі РУУС даставілі прыкладна 15-20 удзельнікаў акцыі, якія дайшлі да плошчы Якуба Коласа: імі аказаліся пераважна жанчыны. Сярод затрыманых - Ірма Табушава, кіраўніца адной з радаў БНФ. Перад самой акцыяй было затрымана 4 чалавекі - сябры ўправы Маладога Фронту. Гэта было прэвентыўнае затрыманне.*

Само ж свята пачыналася і больш гадзіны ішло зусім спакойна, нягледзячы на вялікую канцэнтрацыю міліцэйскіх частак рознага прызначэння.

У парку Янкі Купалы сабралася некалькі тысяч чалавек. Кветак было мноства. Спяваў гурт НРМ пад кіраўніцтвам Лявона Вольскага, танчыла група Котава, спяваў хор БНФ і іншыя. Усе прысутныя разам выканалі гімн "Магутны Божа".

Сябры ТБМ прынялі самы чынны ўдзел у святкаванні. Паводле Алега Трусава ў свяце прынялі ўдзел больш 500 сяброў ТБМ. Асабліва масава была прадстаўлена Менская гарадская арганізацыя і ў першую чаргу Ленінскі, Савецкі, Кастрычніцкі, Заводскі, Партызанскі раёны г. Менска, атаксама Менскі, Светлагорскі і іншыя раёны.

Удзельнікі свята раскупілі святочны нумар "Нашага слова" і ахвяравалі на дзейнасць ТБМ 540 рублёў.

Непаразуменні з міліцыяй пачаліся, калі ўдзельнікі свята вырашылі пасля ўскладання кветак да помніка Янку Купалу ўскласці кветкі і да помніка Якубу Коласу. Міліцыя не выпусціла людзей з парку, а самыя актыўныя аказаліся ў пастарунках.

*Дзень Волі грамадскасць адзначыла таксама і ў Горадні. Там міліцыя затрымала каля 20-30 чалавек, сярод якіх намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка.*

***Наш кар.***

**На здымку:** міліцыя блакуе выхад з парку імя Янкі Купалы.
**Здымак: Фотасервіс IREX.**

**Пад 25 сакавіка аднавіла выхад амерыканская газета "Беларус", якая выходзіць з 1952 года, але на некаторы час прыпыняла выданне па фінансавых прычынах. Новы рэдактар Марат Кваноцкі. Сакратарыят ТБМ віншуе рэдакцыю з аднаўленнем газеты і жадае плёну на беларускай ніве.**

Алесь Петрашкевіч

# Час усё адкрые...

## Трагедыя ў дзвюх дзеях

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**Радзівіл.** І тое радасць... хоць і не роўня вікторы.

*З'яўляецца Багдан Хмяльніцкі на добрым падпітку. Ён без шапкі, у кажуху паверх доўгай зрэбнай сарочкі, у чырвоных мяккіх ботах.*

**Хмяльніцкі.** Вітаю пераможнае панства і раю не здзіўляцца. *(Накіроўваецца да стала, спачатку варожыць, з якога глечыка наліць віна, потым напаўняе кубак і нетаропка апаражняе яго.)* У гэтым кажушку без шараварaў мяне выпусціў чумазлой Іслам Гірэй. Супраць Багдана ўзбунтаваўся нават родны Чыгырын. Мяшчане не пусцілі ў горад. Казакі і гультаі абвінавацілі ў здрадзе. Тры дні піў ашалеўшы і рваў на сабе валасы. На чацвёрты — ажаніўся, чым здзівіў усіх без выключэння! Але вы, панове, Багдану можаце паверыць, бо нічога дзіўнага. Жонка мая новая даводзіцца сястрою корсуньскаму казацкаму палкоўніку Івану Залатарэнку, што, спадзяюся, дасць вам у знакі, шаноўныя паны гетманы. Калі збіраўся ехаць да вас, панове, палкоўнікі мае крычалі: "Ты быў пераможцам, а цяпер едзеш ім кланяцца". Я адказаў: мы цяпер у такім становішчы, што яны нам патрэбны, а не мы ім".

**Патоцкі** *(строга).* Кінь блазнаваць, гетман!

**Хмяльніцкі** *(падае ў ногі Патоцкаму).* Каюся, каронны гетман! Як апошні грэшнік каюся і прашу даравaць за былы здзек над табою, калі ты быў маім палонным, а мае прыдуркі апранулі цябе блазнам і пацяшаліся, а пасля аддалі татарам у няволю.

**Патоцкі** *(спакойна, з годнасцю).* Корсуньскую знявагу я даўно забыў дзеля Бога, веры і Айчыны, і не хачу нагадваць аб ёй; як пакаранне боскае варта прыняць і мае няшчасці і беды ўсёй Айчыны. Дасць Бога, ты ўзнагародзіш усёй ранейшай сваёй вернасцю і падзвігамі дзеля дабра Рэчы Паспалітай.

**Хмяльніцкі.** Святы чалавек! *(Падымаецца з падлогі, нізка кланяецца Радзівілу.)* І табе кланяюся, слаўны воін славутага роду. *(Ідзе да стала налівае напою ў той жа кубак, адпівае.)* Але Кіеў ты мне вярні. Бацька Багдан не можа без Кіева. Кіеў — сталіца маёй дзяржавы.

**Радзівіл.** Запарожскую сеч ведаем, а пра асобную дзяржаву у складзе Вялікага княства Літоўскага — не чулі.

**Хмяльніцкі.** Такая дзяржава ёсць! Я назваў яе, пакуль што, "Белая Русь".

**Радзівіл.** Цікава, а як жа Украіна?

**Хмяльніцкі.** Украіна не стасуецца з дзяржаўнай назвай "Белая Русь", якую я маю намер ператварыць у "Княства Рускае", што працягнецца ад Смаленска да Кіева, і да Чарнігава, і да Белай Царквы, і да Старога Канстанцінава.

**Патоцкі.** Гэта цікава, але ці не прыступіць нам, не губляючы дарэмна часу, да падпісання акта капітуляцыі і прысягі гетмана запарожскага казацтва на вернасць Рэчы Паспалітай і яе каралю.

**Хмяльніцкі.** Падпішу толькі пры ўмовах, што Рэч Паспалітая дазволіць гетману "Белай Русі" павялічыць колькасць рэестравых казакоў да 20 тысяч шабель і пакінуць за казакамі Брацлаўскае і Чарнігаўскае ваяводствы.

**Патоцкі.** Я ўпаўнаважаны каралём Янам Казімірам дазволіць гетману 15 тысяч рэестравых казакоў, але пазбавіць іх як Брацлаўскага, так і Чарнігаўскага ваяводстваў. Да таго ж казацкі гетман падначальваецца кароннаму гетману, казакі могуць жыць толькі ў Кіеўскім ваяводстве, жыды маюць права сяліцца на Украіне, саюз казакоў з татарскай ардой разрываецца.

*Хмяльніцкі напаўняе напаем свой кубак, адпівае з яго і ставіць на стол.*

**Хмяльніцкі.** Давайце, панове, вашы паперкі і сціло, пакуль я не моцна выпімшы.

**Радзівіл.** Ад Вялікага княства пры падпісанні капітуляцыі і прысягі ўпаўнаважаны прысутнічаць гетман Адам Кісель, ваявода смаленскі Юры Глябовіч, брацлаўскі падсудак Міхайла Касакоўскі ды іншыя... Можа, паклічам, калі "казацкі бацька" настойвае.

**Хмяльніцкі** *(да Патоцкага).* Давай паперкі, а то ягоныя ліцвіны мне і дазволенае каралём забароняць.

*Патоцкі разгортвае папку з паперамі і кладзе на край стала, падсоўвае чарніліцу з гусіным пяром. Хмяльніцкі распісваецца на чатырох аркушах. Па парадку іх забірае Патоцкі і прамакае чарніла. Зрабіўшы подпісы, Хмяльніцкі бярэ кубак і дапівае віно.*

**Хмяльніцкі.** Дзякуючы подлай здрадзе Іслам-Гірэя я сапраўды пацярпеў паразу ад самога караля Яна Казіміра і не крыўдую на яго мосць. *(Да Радзівіла.)* А табе, гетман, злосць сваю выкажу. Твая міласць завербавала на мяне тысячы ліцвінаў, а гэтага не было ні пад Хоцінам, ні ў другіх выпадках. Продкі твае ніколі не ваявалі супраць казацкага войска.

**Радзівіл.** Чаго не скажаш пра гультаёў і галаварэзаў "казацкага бацькі", якія з года ў год пустошаць маю Айчыну. І я прыходзіў па тваю галаву не толькі пад Белую Царкву, але і ў Кіеў.

**Хмяльніцкі** *(упадае ў п'яную істэрыку).* І ты і твой валахскі гаспадар Ракашы — здраднікі! Ён не аддаў за майго сына сваю дачку! І хоць Ракашы табе цесць, я гатовы біцца з ім у Валахскай зямлі, бо і ён, і ты ворагі Польшчы! Зноўшчыкі! У хуткім часе я буду мець шмат людзей, а мала будзе, пазычу у маскоўскага цара. Разрабую скарбы Ракашы, захаплю Валахію і пакараю злахітрага!..

**Радзівіл.** Спадзяюся, што гаспадар Ракашы гэтага не спужаецца.

*Нечакана Хмяльніцкі аслабела апускаецца на лаву, галава яго падае на стол і ён засынае п'яным сном.*

**Радзівіл.** Калі ён казаў п'яны, дык я кажу цвярозы, што ні я, ні валахскі гаспадар не палохаемся, і заўсёды гэты атаман гультаёў знойдзе мяне гатовым. Калі захацеў бы і цяпер, я пачакаю яго у полі, і ён пераканаецца, што яго п'яная фурыя мяне ніколькі не палохае, і я гатовы расправіцца з ім, як пажадае — або з войскам, або без войска!

**Патоцкі.** Плюнь, Януш. Ці князю Радзівілу выходзіць на рысталішча з чыгірынскім халопам? Лепш пойдзем ды скажам яго ахове, каб адвезла свайго "бацьку" у возе, бо на каня ён усё адно не ўзлезе, а калі і ўздзярэцца, то зваліцца недзе ў канаву.

*Абодва зыходзяць.*
*Сцэна зацямняецца.*

**III**

*Царская палата. Аляксей Міхайлавіч у роздуме вымервае яе крокамі ад сцяны да сцяны і раз, і другі. З'яўляецца ваявода Шарамецеў.*

**Шарамецеў.** Дазволь, вялікі гасудар?..

**Аляксей Міхайлавіч.** А ты хоць з чым добрым?

**Шарамецеў.** Я з пасланнікам-выведнікам Рыгоркам, ваша вялікасць, а ён з добрым.

**Аляксей Міхайлавіч.** Тады кліч. *(Садзіцца на трон, бярэ царскі скіпетр.)*

*Шарамецеў выходзіць і вяртаецца з Рыгоркам. Той каля парога падае на калені, кланяецца, паўзе да ног цара.*

Не поўзай! Калі з добрай весткаю, то трымай сябе годна, як слуга мой верны. *(Рыгорка жвава ўсквае з падлогі.)* Надзвычай добрай, вялікі гасудар! Багдан Хмяльніцкі вырашыў адпомсціць ляхам за паразу пад Берасцечкам і змыць польскай крывёю свой подпіс-прысягу пад Белацаркоўскай дамовай з каралём.

**Аляксей Міхайлавіч** *(задаволена).* Нішто, нішто сабе навіна!..

**Рыгорка.** Сабраў 20 тысяч казакоў і 5 тысяч татараў ды яшчэ 14 тысяч нагайцаў Карач-Мурзы і паслаў іх на Малдавію на чале з сваім Цімафеем. Адначасна пусціў пагалоску, што ў сына пад рукой нібыта толькі 5 тысяч ваяроў.

**Аляксей Міхайлавіч.** Гэта на яго падобна...

**Рыгорка** *(заахвочана).* Польшча не засмуцілася такім невялікім загонам і 20-тысячным войскам пад зверхнасцю гетмана Каліноўскага перагарадзіла Цімафею дарогу і спадзявалася адпомсціць за сваю ганебную паразу пад Корсунем. Пяцітысячны татарскі загон з'явіўся каля лагера Каліноўскага і той усімі сваімі сіламі атакаваў яго, а татары наўмысна кінуліся ўцякаць. Недацёпа Каліноўскі ўжо святкаваў перамогу, як яму ў спіну ўдарылі асноўныя казацкія сілы. А дабіла іх новая чутка пра тое, што ў Хмяльніцкага 100-тысячнае войска. Замітусіліся, запанікавалі ляхі і, клянучы вар'ята Каліноўскага, што распачаў сечу, пасганявілі аддаць яго татарам, каб адкупіцца ад уласнае смерці. Не ўсе з гэтым пагадзіліся і ляхі пачалі біцца паміж сабой.

*Аляксей Міхайлавіч ад задавальнення аж пацірае рукі.*

Агнём гармат і зброяй нямецкіх пешцаў Каліноўскі спрабаваў затрымаць уцекачоў. А яны зброяй пракладвалі сабе шлях. У гэты час пехта з казацкіх прыхільнікаў запаліў сена ў польскім лагеры і ён ператварыўся ў пекла — агонь і звар'яцелыя ад страху людзі! Ні хуткія ногі, ні коні, ні мальба лігасці не выратавалі ляхаў ад загубы. Акружаныя з усіх бакоў яны гінулі, як бездапаможныя зайцы на аблаве. Сотнямі танулі ў рацэ. Уражаны гетман Каліноўскі ў роспачы кінуўся на татарскія стрэлы. Тыя адсеклі гетману галаву і паслалі яе Хмяльніцкаму.

*Аляксей Міхайлавіч прыходзіць у захапленне ад пачутага, злазіць з трона.*

**Аляксей Міхайлавіч.** Расказвай! Расказвай, Рыгорка...

**Рыгорка.** Польскае войска знішчыў жах. Ганьбу ляхаў падзялілі і ўкраінцы. Ап'янелыя ад крыві і гарэлкі пераможцы перабілі палонных. Хітры "бацька", які асабіста не ўдзельнічаў у бітве, зноў зрабіў выгляд невінаватага і аблудліва прасіў у караля Яна Казіміра даравання за "пацеху" казакоў, якія супраўджалі ў Ясы яго сына, які, маўляў, мірна ехаў у сваты да дачкі тамтэйшага гаспадара. І самае цікавае, вялікі гасудар, што Цімафей дасягнуў сваёй мэты і, ажаніўшыся, стаў сваяком Янушу Раддзівілу па жонках-сёстрах.

*Аляксей Міхайлавіч, а за ім і Шарамецеў весела рагочуць.*

**Аляксей Міхайлавіч** *(напаўняючы віном кубак з пазалотай).* Выпі, Рыгорка, з царскага кубка. Вельмі цікава расказваеш!

*Рыгорка паволі апаражнівае кубак да донца. Цар назірае за ім.*

І кубак забяры з сабою... на добры ўспамін пра міласці вялікага гаспадара.

*Рыгорка спачатку губляецца, а потым паспешліва хавае кубак запазуху і літаральна выбягае, забыўшыся пакланіцца..*

**Шарамецеў.** Вялікі гасудар, ён яшчэ не ўсё расказаў...

**Аляксей Міхайлавіч** *(сурова).* Як гэта не ўсё?!

**Шарамецеў.** Пра непрыемнае — пабаяўся, таму і вылецеў з палаты, як падсмалены.

**Аляксей Міхайлавіч.** Ну, як ты не баішся, ваявода, то расказвай за Рыгорку!

**Шарамецеў.** Справа ў тым, ваша вялікасць, што палякаў яшчэ раз выратаваў усё той жа Іслам-Гірэй. Здрадзіўшы Хмяльніцкаму, ён заключыў з каралём Янам Казімірам дамову, па якой кароль абавязаўся плаціць хану "памінкі" і дазволіў рабаваць Украіну. Тысячы украінцаў і, між іншым, беларусцаў нашай веры ўжо пайшлі ў татарскую няволю.

**Аляксей Міхайлавіч** *(ашаломлена).* А Хмяльніцкі?.. Што Хмяльніцкі?!

**Шарамецеў.** Думаю, што на раздарожжы Хмяльніцкі, ваша вялікасць...

**Аляксей Міхайлавіч.** І будзе зноў шукаць авантурыст, разбойнік і п'яніца, каму аддацца і чыёй падмогай пакарыстацца і супраць Каралеўства, і супраць Вялікага княства, і супраць той жа Валахіі ды Іслам-Гірэя.

**Шарамецеў.** Відаць, што так, вялікі гасудар.

**Аляксей Міхайлавіч.** Дык ці не дапамагчы нам няўдачніку... але не раней таго, як ён запрадасць нам не толькі сваю чорную душу, але і зямлю рускую, хоць і ўкраінную.

*Сцэна зацямняецца.*

*(Працяг у наступных нумарах.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія: Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 25. 03. 2002 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 564.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
Кошт у розніцу: 120 руб.